**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84 (4Беи)**
**А 93**

А 93 **Аўсяннікава Т.П.**

Лістапад гадоў: вершы, 2010. - 35с.

Другая кніга Тамары Аўсяннікавай – роздум над імгненнасцю жыцця, яго стасункамі і над тым, што дорага і хвалюе.

ББК 84 (4Беи)




## ЛІСТАПАД ГАДОЎ

Адышло дзяцінства,
Скошана трава.
Адцвіла ўжо вішня,
Адцвіла вясна.

Праімчала лета
Грозамі, дажджамі,
Маладой каметай,
Сонечнымі днямі.

Саступіла восень –
Лістапад гадоў.
Інеем на косы –
Замець халадоў.

***20.05.09***

## ЮБІЛЕЙНЫ ДЗЕНЬ

Дождж шуміць за акном,
Гром з лянотай ступае,
Тэлефонным званком
З юбілеем вітае
То сябрук, то радня,
То далёкі знаёмы...
І пайшла бегатня
Да ламоты, да стомы.

Дзень закончыўся. Вечар
Наваколле ахутаў.
Парафінавых свечак
Мігаценне і смутак
Мне пакінуў. Застаўся
Успамін. Адзінота...
Шлюбам месячык ўзяўся
З ноччу. Ах, сардэчныя ноты!

***17.09.2009***



## ВЕРЛІБР

З пажоўклага фотаздымка
глядзяць на мяне
яшчэ маладыя,
але без часу састарэлыя,
бацька і маці,
ва ўдумлівых паглядах якіх
столькі перажытага,
што хапіла б
на некалькі жыццяў.

***17.09.2009***

## ЛЮДМІЛЕ ПАПОВАЙ

Немаўляткамі нараджаемся,
А пясчынкамі рассыпаемся.

Углядаемся ў неба зорнае,
Летуценныя, непакорныя.

Мы сняжынкамі сустракаліся,
І дажджынкамі расцякаліся.

Сэрцы нашыя незласлівыя,
Душы чулыя і ранімыя.

Мкнемся думкамі да высокага,
Па жыцці ідзем адзінокімі.

***18.07. 2009***



## ТАМАРЫ КАЛЕНІКАВАЙ

Нас раздзяляюць вёсны, вёрсты,
А правады яднаюць.
Ў разлуцы сябраваць няпроста,
Я гэта ведаю, я знаю.

Не трэба дружбы нітку рваць
Прасторамі і часам.
Тады вузельчык не схаваць,
А шчырасць знікне, знікне разам.

Лунае жораў дзесь на Паркавай –
Юнацкіх мар крыло.
І доўгім ценем лета яркага,
Наканаванасцю лягло.

***16.07.2009***

## ГЕОРГІЮ ШЫЛОВІЧУ

Ой вы, ногі мае,
Ой вы, быстрыя.
Ой вы, думкі мае,
Ой, высокія.

Толькі што ж за бяда
Прыключылася,
Толькі што ж за напасць
Навалілася.

Я падняць не магу
Ногі-ножанькі.
І пайсці не магу
Па дарожаньцы.

Рвецца сэрцайка ўвысь
Смелым сокалам.
Ложак цягне уніз,
Ой, да волакам.

А бывалі ж дзянькі
І вясёлыя.
І сталы ў нас былі
Хлебасольныя.



А цяпер цішыня
Пасялілася.
І дарога жыцця
Прытамілася.

Наракаць не магу,
Я не жалюся.
Памалюсь, памаўчу,
Прынядзелюся.

Бо так хочацца быць
Верным  лебедзем,
Пераждаць, пережыць
Боль і непагадзь.

Веру, сілу далі
Рукі каханай.
Доляй мы на зямлі
Навек знітаваны.

***30.12.2009***

# НЯМА ТВАЁЙ УСМЕШКІ СЯРОД НАС

Нічога не вяртаецца назад:
Ні гэты міг, ні гэты дзень, - я знаю.

*Я.Янішчыц*

«Нічога не вяртаецца назад», -
У дзень той спадарожніцам чытала.
Не ведала, што ты – у снегапа-а-а-д!
І на зямлі адной сняжынкай болей стала.

«Нічога не вяртаецца назад», -
Шчымліва ў вершы ты сваім пісала.
О, як нявесціцца вясновы сад!
Ды кветачкай адною ў садзе меней стала.

А сёння вершаў розных – цераз край.
І шкадаваць, як быццам, не да твару.
А я крычу у лістапад праз май:
“Мой бог, вясну вярні, вярні паэту мару!”



О, як змяніўся свет за гэты час!
Чаму ж ты крылы лебедзевы склала?!
Няма тваёй усмешкі сярод нас –
І песняю тваёй на свеце меней стала.

Вясну любіла, спелае жніво,
“Сланечнікі” і “Ірысы” Ван Гога,
У глебы брала сілу і цяпло,
Ірвалася да зор – у вечнасць йшла дарога.

Твой лёс паэта – неба прыгавор.
Beata sotimudo[1] так натхняла!
Магнітам быў Галактыкі прастор –
І зоркаю адной на небе болей стала.

***05.07.2009.***

1 Beata sotimudo – лац., благаславенная адзінота.

***

Квітнелі майскія сады,
Адзенне белае гублялі.
Табе няўцям, што за сляды,
Якія  знакі  падавалі.

Касца чакалі доўга гоні…
Адказы ёсць – няма ім веры.
І сустракаліся далоні
У думках, вершах, на паперы.

Прабач, прабач, што наслядзіла,
Прабач, што я з табою поруч…
У марах-роздумах блудзіла –
Смяялася дарога-роспач.

***31.05.09***



## ТАНГА

На сталe фотаздымак,
Памінальная свечка –
Аб былым напамінак
Шкадаванняў адвечных.

**Прыпеў:**
Не шануем, што маем,
Слёзы льём апасля.
Праклінаем, рыдаем –
Шчасце бачым здаля.

Ах, гарэнні, ах, мары!
Вы прайшлі, праляцелі.
А на небе ўсё хмары.
Вы таго не хацелі.

**Прыпеў.**

На сталe фотаздымак,
Памінальная свечка –
Аб былым напамінак
Шкадаванняў адвечных.

**Прыпеў.**

***23.09,10.10.2009***

***

Куды паўзеш, казявачка?
Спыніся. Там машыны
і там твая смерць.

***

Куды ідзеш, чалавек?
Не спяшайся. Насустрач
смерці ідзеш.

***08.05.2009***

***

На раздарожжы юнацтва –
Што рабіць?
На раздарожжы старасць –
Як жыць?

***28.11.2009***



***

Як прыемна пасля дажджу
сонейка ўбачыць
і яму ўсміхнуцца.

***

Як прыемна пасля спякоты
пахмурны дзень сустрэць
і лашчыцца з ветрам.

***

Як прыемна пасля спякоты
хмарку ўбачыць на небе
і чакаць дажджу.

***Жнівень 2009***

***

Сэрцайка маё,
скажы, як ты змагло
столькі гадоў жыць
без ласкі і без цяпла!
Дзе сілу брала?

***09.11.2009***

***

Мы –
дзве маленькія кропелькі
ў неабсяжных прасторах сусвету,
і Бог даў нам магчымасць
стаць адным цэлым.

***21.01.2010***



**ТАНКА**

Не сустрэліся
Ён і Яна. Абое
Нешчаслівыя.
А сонца ў небе свеціць,
І зоркі ноччу гараць.

***09.11.2009***

***

Свечкі на вокнах
У былым Ленінградзе.
Блакада болем
Ў сэрцы адзываецца.
І мой бацька там быў. Быў!

***28.01.2010***



У дзяцінстве





Донечкі: Наташа і Алеся

## ХОКУ

Дзве прыгажуні,
дзве дзяўчынкі на радасць.
Матчына крылы.

***10.11.2009***

Хто самаедствам
сэрца р’ве і душу, той
сам сабе вораг.

***20.01.2010***

Каханне і мір.
Танкі растапталі ўсё.
Пражская вясна.

***26.02.2010***

Божа праведны,
цябе малю: дастойна
дай памерці мне.

***09.11.2009***



***

Гарбачоў зневажаў Сахарава.
Ельцын зневажаў Гарбачова.
І ў першым і ў другім выпадку
Зала пляскала ў далоні.

***

Што за людзі мы,
Што за пачвары?!
Рады, калі іншага –
У гразь тварам.

***27.11.2009***

***

Адна дачка — наследніца,
А другая — старасць бацькі ахоўвае.

***18.02.2010***

***

Мчыцца наша рака паўнаводная.
Мы з табой берагі – непадобныя.

Б’е каханне крынічкаю чыстаю.
Дуб схіляецца кронай вячыстаю.

Масты-рукі над рэчкай ўздымаюцца,
І паглядамі сэрцы яднаюцца.

Ты – круты беражок, я – палогі.
Разыходзяцца нашы дарогі.

І бяда ўжо бяжыць, набягае,
Спакваля беражок падмывае.

І бурлівей вада – мора чуецца…
А дзе радасць мая? А ці збудзецца?!

Ты не плач, не крычы, бела чаіца!
Ўсё бывае ў жыцці. Ўсё канчаецца…

***Жнівень 2009, 14.03.2010***



***

Ідзе чалавек адзінокі
І з кімсьці гаворку вядзе:
— Мне кажа начальнік высокі:
“Не можам дарадзіць
твaёй мы бядзе.”
І піша паперу-адказ.
Вось ў чым, людцы добрыя , сіла:
Ёсць вельмі ўжо важны указ,
Парушыць які немагчыма.
Не трэба той просьбе-казюрцы,
Не трэба указаў, дазволу,
А росчырк пяра на цыдулцы
І слова,
адно
чалавечае
слова.

***05.07.2009.***

***

Маці дастойна прайсці хацела
Богам наканаваны шлях.
Шчасця і радасці мала мела –
Кросны, кудзеля...браты на руках.

Ў школу з вялікай ахвотай хадзіла –
Да ведаў цягнулася сэрца.
Ў хоры царкоўным дыскантам пела.
-Хопіць, - бабуля сказала, -
дзеўцы вучоба не трэба.

Зведала крыўду, голад, нястачу.
Шчырай у працы і ў словах была.
Бачыла зводдаль нават удачу –
Хмары закрылі... Вайна.

Муж без весткі прапаў, недзе згінуў.
Ад тыфу дачка памерла.
Ў зямлянках хаваліся лета і зіму –
Выпрабаванне Богава, пэўна.



Маці дастойна хацела памерці:
Пры памяці
і на сваіх нагах.
Барані Бог,
каб нікому не надаесці
І душу не ахутаў бы страх.

Маці дастойна шлях свой прайшла.
Сілу яе на сябе прымяраю.
Шляхам іду, як матуля ішла.
Долю не зменіш – а я й не жадаю.

***15-25.01.2010***

## ТЭРЦЫНА

Человеку – надоба
Человека – в нём.

***М.Цветаева***

Йдзе жыццё. І век ад веку
Ў радасці і ў горы, проста так
Чалавек патрэбен чалавеку.

Нават і цана каму пятак –
З чалавекам хоча ён страчацца.
Хто ж паспорыць, што не так?

Ты багаты, можа стацца.
Чалавек патрэбен, як ніколі,
Чалавекам каб застацца.

Йдзеш сцяжынкай вузкаю. І ў полі
Чалавек насустрач калдыбае.
Можа, ты яго не стрэнеш болей.



Можа, ён патрэбу ў табе мае.
Ты спыніся, павітайся
І спытай, як пачувае.

Божа крый, не заракайся
Ад хваробы, горычы, нястачы.
У грахах сваіх пакайся.

Шчыра пажадай сябрам удачы,
Заставайся чалавекам
Сёння, прысна і навекі.

***06.08.2009***

## ЖЫЦЦЁВЫЯ ВЫСНОВЫ

Ёсць людзі, якія лічаць сябе хітрэйшымі за ўсіх і думаюць, што гэтага ніхто не заўважае.

***

Сцярпець можна многае, апрача знявагі.

***

Чаму некаторым так хочацца валадарыць над другімі? Магчыма, менавіта так яны адчуваюць сваю значымасць.

***

Калі ты мусіш прымаць падарункі, а сам такой магчымасці не маеш, то, як правіла, пазбаўляешся свабоды ў адносінах з гэтым чалавекам. Выключэнні бываюць, але рэдка.



***

Прыемней аддаваць, чым браць.

***

Добры верш можна параўнаць са стужкай Мёбіуса. Геніяльнасць адкрыцця нямецкага матэматыка заключаецца ў тым, што, ідучы па знешняй паверхні фігуры, мы не заўважаем пераходу на ўнутраную і наадварот. Такім павінен быць і верш, у якім форма і змест будуць складаць адно цэлае.

***15.03.2010***

## ДАВЕДКА

1. **Папова Людміла Васільеўна** – заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь. Нарадзілася 18 кастрычніка 1949 года ў Мінску. Скончыла Брэсцкі педагагічны інстытут імя А.С.Пушкіна. Выкладае рускую мову і літаратуру ў Магілёўскім абласным ліцэі №1.

2. **Каленікава Тамара Якаўлеўна** – аднакурсніца аўтара. Скончыла БДУ імя Леніна ў 1971 годзе. Нарадзілася 17 ліпеня 1949 года ў Баранавічах. Выкладала рускую мову і літаратуру ў родным горадзе, дзе жыве і цяпер.

3. **Шыловіч Георгій Уладзіміравіч** – беларускі пісьменнік. Удзельнік ВАВ. Нарадзіўся 7 студзеня 1924 года ў Мінску, дзе жыве і цяпер.

4. **Янішчыц Яўгенія Іосіфаўна** (20.11.1948-25.11.1988) – беларускі паэт.

5. **Краўчанка (Плюшчай) Макрэна Пятроўна** (19.07.1907 – 07.11.1990) – маці аўтара.



## ЗМЕСТ

**Літаратурна-мастацкае выданне**

**Аўсяннікава Тамара Пятроўна**

# ЛІСТАПАД ГАДОЎ
Вершы

*Камп'ютэрны набор аўтара*
*Камп'ютэрная вёрстка Ж.І.Палханава*
*Папера фармат А-5*
*для капіравальных апаратаў*
*Надрукавана*
*на "Xerox WorkCentre 7132"*
*Наклад 99 асоб.*

*УК "Магілёўскі абласны метадычны цэнтр*
*народнай творчасці*
*і культурна-асветнай работы"*
*Рэдакцыйна-выдавецкі аддзел. Тэл. : 25-35-23*
*г.Магілёў, вул. Першамайская, 10*
*E-mail: mogomc@tut.by*